# ТУТ І ЦЯПЕР

WWW.SVABODABY.NET

БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

26.07.12-1.08.12 г.



**ШМАТДЗЕТНАЯ СЯМ'Я**



ПАВІННА ЭКАНОМІЦЬ НА ЗНІЖКАХ

СТАР. 4–5

**ЗОРНЫЯ РАЗВОДЫ**

ЧЫМ ЯНЫ ЗАКАНЧВАЮЦЦА




СТАР. 6–7


# ПАКУЛЬ НЕ ЛЯСНЕ

КДБ дэ-факта прызнаў, што шведы з плюшавымі мядзведзікамі насамрэч прыляталі ў Беларусь.




*Лукашэнка прызнаў, што мядзведзікі зусім не цацачныя*

Афіцыйна ніводная асоба пакуль што не ўзяла на сябе адказнасць пацвердзіць факт незаконнага перасячэння мяжы. Гэтая тэма, па сутнасці, замоўчваецца, бо вельмі ўжо ганебна выглядае тое, што славутая беларуская супрацьпаветраная абарона прагледзела "медзведзяроўшчык", за штурвалам якога знаходзіліся пілоты-аматары.

Аднак ужо вядома, што па гэтым факце ўзбуджана крымінальная справа і ёсць арыштаваныя. Рыэлтару Сяргею Башарымаву прад'яўлена абвінавачанне ў садзейнічанні незаконнаму перасячэнню мяжы. Ён меў няшчасце даслаць запрашэнне і здаць у арэнду кватэру шведам,якія звярнуліся да яго з гэтай просьбай праз інтэрнэт.

За кратамі таксама знаходзіцца Антон Сурапін, які размясціў на ўласным сайце фота самалёта над Івянцом. Дагэтуль няма ніякіх звестак пра тое, што канкрэтна яму інкрымінуецца, хаця з моманту затрымання мінула ўжо 13 дзён.

Ноч у "амерыканцы", сумна знакамітай турме КДБ, правяла і сяброўка Башарымава. А непаўналетнюю дзяўчыну Сурапіна чэкісты падчас допыту давялі да слёз.

Карацей кажучы, для следчых КДБ пытання аб тым, ці быў самалёцік, не існуе. Фактычна незаконнае перасячэнне мяжы прызнана арыштамі "саўдзельнікаў злачынства".

Тым часам Пэр Кромвэл, кіраўнік рэкламнай студыі «Тотал», якая зладзіла гэтую акцыю, звярнуўся з адкрытым лістом да Аляксандра Лукашэнкі. Швед пацвердзіў, што ні Антон Сурапін, ніхто іншы з беларусаў не ведаў аб планах "медзведзяроўшчыкаў".

"Мы абяцаем вам прыехаць і адказаць на ўсе вашы пытанні і распавесці вам усё пра нашу працу:як мы ляталі, як ашукалі вашу сістэму СПА і гэтак далей. Усё, што вам трэба зрабіць, гэта абяцаць больш не катаваць нявінных мінакоў", — піша Кромвэл.

Своеасаблівым адказам на гэты ліст можна лічыць узнагароджанне медалямі «За бездакорную службу» вайскоўцаў супрацьпаветранай абароны. У адпаведным указе, які падпісаў Лукашэнка, гаворыцца, што адзначаныя (больш за 40 чалавек) "образцово выполняют свои должностные обязанности». Сярод тых, хто атрымаў медалі, ёсць і такія, хто ахоўвае беларуска-літоўскую мяжу, якую бесперашкодна пераадолеў шведскі самалёт.

Гэта надзвычай характэрная для цяперашніх улад рэакцыя на раздражняльнікі. Свае сістэмы (палітычную, эканамічную, супрацьпаветранай абароны) яны падаюць як найлепшыя ў свеце, ці, прынамсі, унікальныя. Нішто не павінна ставіць пад сумніў трываласць дзяржаўнага ладу, нацыянальнай валюты, мяжы і г.д.

Так, летась кіраўніцтва краіны да апошняга сцвярджала, што дэвальвацыя рубля выключана. Калі ж ён абваліўся, вінаватых не знайшлося.

Шведам, дарэчы, варта было б сказаць дзякуй за тое, што яны агалілі слабыя месцы нашай супрацьпаветранай абароны. Бо днямі быў падпісаны кантракт на будаўніцтва атамнай электрастанцыі — між іншым, каля той жа самай беларуска-літоўскай мяжы. Уявіце сабе, што калі АЭС пачне дзейнічаць, то можа прыляцець падобны самалёцік, праўда, кіраваць якімбудуць не рэкламшчыкі, а тэрарысты. І скідваць яны будуць не мядзведзікаў, а бомбы…

Праз акцыю "Тотал" беларусы маюць час, каб "залапіць" дзіркі ў паветры. Але ж высокапастаўленыя дзяржаўныя асобы робяць выгляд, што ўсё і так на "образцовом" узроўні. Амаль як рубель у 2011-м.

І так пакуль не лясне… Застаецца толькі спадзявацца, што на чарзе аўтарытарная мадэль кіравання краінай, а не сістэма супрацьпаветранай абароны ці нешта іншае, ад чаго непасрэдна залежыць жыццезабеспячэнне беларусаў.

**ВАЛЯНЦІН СЫЧ**

**НАВІНА**

## ТОЗІК ЗАМЕСТ ЛУКАШЭНКІ

Намеснік прэм'ер-міністра Беларусі Анатоль Тозік будзе прысутнічаць на цырымоніі адкрыцця летніх Алімпійскіх гульняў у Лондане, паведаміў БелаПАН прэс-сакратар Міністэрства спорту і турызму Уладзімір Несцяровіч, паведамляе БелаПАН.

Паводле яго слоў, Тозік разам з кіраўнікам Мінспорту, кіраўніком алімпійскай дэлегацыі краіны Алегам Качаном, памочнікам прэзідэнта па пытаннях фізічнай культуры, спорту і развіцця турызму, першым віцэ-прэзідэнтам Нацыянальнага алімпійскага камітэта Ігарам Зайчкавым і віцэ-прэзідэнтам НАК Сяргеем Цяцерыным прыбываюць у Вялікабрытанію вечарам 26 ліпеня. Цырымонія адкрыцця Гульняў пройдзе на наступны дзень.

У ліпені 2011 года ў адпаведнасці з пастановай Савета міністраў Тозік узначаліў аргкамітэт па забеспячэнні падрыхтоўкі і ўдзелу беларускіх спартсменаў у XXX летніх Алімпійскіх гульнях і XIV летніх Паралімпійскіх гульнях 2012 года ў Лондане.

Раней стала вядома, што брытанскія ўлады не дазволілі з'езд у краіну Аляксандра Лукашэнкі, які з'яўляецца па сумяшчальніцтве прэзідэнтам НАК.

# ЦІ ПЕРАМОЖАМ МЫ “БІМБАР”?

**Альбо чарніла. Альбо чэмергес. Альбо бырла. Альбо пладова-выгаднае. Як не называй любімы ў народзе напой, яго сутнасць не мяняецца. Даўно даказана, што ён калечыць і паскарае дэградацыю гэтага самага народа. Нават у Расіі, вядомай сваім асаблівым стаўленнем да п’янства, катэгарычна адмовіліся ад чарнільца. Чаму не хочуць так зрабіць у нас, разбіраліся эксперты “Тут і цяпер”.**



*Да вядомага “Агдама” нашым пладова-ягадным ох як далёка*

**ВІКТАР ШАЛКЕВІЧ, БАРД:**
### “У ГЭТЫХ ВІНАХ ВІТАМІНАЎ БОЛЬШ, ЧЫМ У СОКАХ”.

— У мяне такое ўражанне, што пладова-ягадныя віны — гэта, папершае, адна з частак пейзажу нашай роднай старонкі. А па-другое, гэта частка нармальнага прыбытку. Я многа раз бачыў, калі прыстойна апрануты чалавек, вяртаючыся з працы, недзе за рагом хаты вымае бутэльку віна, выпівае і спакойна ідзе дамоў вячэраць. Калі гэта забяруць, то народ будзе піць нешта іншае. Мне кляўся і бажыўся дырэктар аднаго з вінзаводаў, што ў гэтых вінах вітамінаў больш, чым у соках. Калі, кажа, параўнаць, з чаго робяць сокі і з чаго — нашы віны, то атрымаюцца дзве розныя рэчы. Я сам некалькі разоў іх каштаваў. Напоі вельмі адрозніваюцца ад таго, што было ў нашай маладосці. Гэта лепш, чым “Морда мятая” (“Водар мяты”).

**АНДРЭЙ КАПЫТАЎ, НАРКОЛАГ:**
### “ЧАРНІЛА” ДАЎНО ПАРА ЗАБАРАНІЦЬ”.

— Гэтае пытанне ўвогуле не павінна абмяркоўвацца. Ні ў адной краіне свету такой прадукцыі няма. Калі дадзенай вадкасцю можна фарбаваць агароджы, то пра што можна казаць? Недзе на Захадзе вытворцу такога алкаголю пасадзілі б за краты. Гэтую прадукцыю даўно пара забараніць. У прынцыпе, вам траплялася ў Беларусі віно добрай якасці? Гэта вялікая рэдкасць. А што тычыцца пладова-ягадных, то не дарэмна іх называюць чарнілам.

**УЛАДЗІМІР АРЛОЎ, ПІСЬМЕННІК:**
### “ТРЭБА ДАЗВОЛІЦЬ САМАГОНАВАРЭННЕ”.

— Я за дазвол на якаснае самагонаварэнне і адназначна супраць пладова-ягадных він. Якасная хлебная самагонка, якая і называлася ў Беларусі “гарэлкаё”, павінна быць дазволена для вытворчасці Палатай прадстаўнікоў. За ўзор прапаноўваю ўзяць “Старадарожскую”.

**ІНЭСА ГАЛЫНЕЦ, ХАТНЯЯ ГАСПАДЫНЯ:**
### “ЗАБАРОНАМІ ГЭТАЙ БЯДЗЕ НЕ ДАПАМОЖАШ”.

— Я думаю, праблема будзе ў тым, чым замяніць гэтыя віны. Сумняваюся, што тыя, хто піў “чарніла”, рэзка пяройдуць на каньяк і лікёры. Хутчэй за ўсё, перавага будзе аддадзена ў лепшым выпадку гарэлцы, у горшым —самагону. Не здзіўлюся, калі трайны адэкалон зноў стане адным з любімых напояў пэўнай катэгорыі насельніцтва. У любым выпадку, можна паспачуваць сем’ям алкаголікаў і п’яніц, юо ўдар па сямейным бюджэце будзе істотны. Будзе, як у тым анекдоце: “Тата, ты цяпер будзеш меней піць?” “Не, сынок, ты цяпер будзеш менш есці”. Не забараняць трэба, а даць людзям магчымасць зарабляць грошы, каб у іх не ўзнікала жадання хутчэй забыцца.

**ВАЛЯНЦІНА КАРАТЫШ, ПРАДПРЫМАЛЬНІЦА:**
### “ТРЭБА ВЫПУСКАЦЬ ГЭТАЙ АТРУТЫ БОЛЬШ, ПАКУЛЬ УСЕ АЛКАШЫ НЕ ВЫМРУЦЬ”.

— Наадварот, трэба панізіць іх кошт і выпускаць як мага больш. І паболей фарбавальнікаў дабаўляць, каб прыгажэй было. Бо мяне на дачы гэтая алкашня ўжо дастала: працаваць не хочуць, ад раніцы бадзяюцца і клянчаць рублі на апахмелку. Хутчэй бы ўжо здохлі! Таму хай нарошчваюць вытворчасць гэтай атруты. Нармальныя людзі скажуць вінзаводам вялікі дзякуй!

**ЗМІЦЕР БАРТОСІК, ЖУРНАЛІСТ:**
### “СПРАВА ТУТ НЕ Ў НАЗВЕ”.

— А што, пладова-ягадныя віны атрута? Ці іх прыдумалі ў Беларусі? Не. Іх вырабляюць у Еўропе, там, дзе кепска расце вінаград. Вырабляюць іх і на поўначы Францыі (называецца напой “пуарэ”), і ў Нямеччыне. Іншая справа, што туды не дабаўляюць фарбавальнікі і рэктыфікат. Таму справа тут не ў назве, а ў сакрэце беларускіх вінаробаў. У нас і каньяк прадаецца такі, што горшы за атруту. Я ўжо маўчу пра тое, што ў нас называецца вермутам. Дык што, забараніць іх таксама? Таму справа не ў назве. А аматарам пладова-ягаднага раю пакаштаваць “Шчодры вечар” і “Ягодный каскад”, што з’явіліся ў крамах “Еўраапт”. Вас чакае незабыўны вечар. Гэта ўжо можна піць.

**СЯРГЕЙ ПУШКОЎ, НАСТАЎНІК:**
### “УСЁ Ж ЛЕПШ — “АГНІ ЖЛОБІНА”.

— Я адназначна супраць гэтай меры, бо яна ўдарыць па беларускай мове. Гэта ж які пласт культуры і паэтычнага слова нас пакіне! Чаго толькі беларус не каштаваў: і “Шаноўнага госця”, і “Осеннюю элегию”, і “Волшебную флейту”, і “Шляхецкае”. Ад адных назваў душа пяе. Я ўжо маўчу пра “Агні Парыжа”. Але апошняя назва гучыць неяк непатрыятычна. Чаму было не назваць “Агні Жлобіна”? Назва больш адпавядала б змесціву.

**АПЫТАННЕ ПРАВЁЎ ЗМІЦЕР ЗЯЗЮЛЯ**

**ДАСЛОЎНА**

**Дырэктар талачынскага кансервавага завода, член Савета Рэспублікі Анатоль Анюхоўскі на днях сказаў «Беларускай ніве», што «вырашэнне праблемы не ў забаронах і абмежаваннях продажаў пладова-ягадных він, а ў паляпшэнні іх якасці і знешняга выгляду». На талачынскім заводзе віны пладовыя моцныя ардынарныя, так званыя нізкагатункавыя, займаюць усяго 1 працэнт у структуры вытворчасці, і з другога паўгоддзя іх выпуск цалкам спыняецца. Іх месца на прылаўках крам зоймуць віны больш высокай якасці, паведамляе газета «Беларуская ніва».**

# ЧАМУ БУЙНЫЯ БІЗНЕСМЕНЫ ЦКУЮЦЬ ДРОБНЫХ

**Апошнім часам да фактараў, якія перашкаджаюць беларускаму малому бізнесу развівацца, дабавіўся яшчэ адзін. Гэта нежаданне буйнога бізнесу разумець патрэбы калег "меншага маштабу".**

## ВЫЦІСНУЦЬ ЯК МАГА БОЛЬШ

Як гэта ні дзіўна, але супрацоўніцтва, ці, хутчэй, суіснаванне малога і буйнога бізнесу сёлета выліваецца ў праблемы для індывідуальных прадпрымальнікаў. Як і прасілі раней прадстаўнікі прадпрымальніцкай супольнасці, дзяржава паступова адыходзіць ад сваіх рэгулюючых функцый і пакідае малы бізнес сам-насам са сваімі буйнымі партнёрамі. Тыя, у сваю чаргу, бачачы нізку, якая раней звязвала ім рукі, імкнуцца выціснуць з прадпрымальнікаў як мага больш.

> "Мы і так дробныя сошкі ў гэтай краіне. А тут яшчэ і такая сітуацыя. Крыўдна".

Найбольш яскрава няроўнае становішча малога і буйнога бізнесу ў Беларусі праяўляецца ў сферы арэнды. У канцы сакавіка бягучага года быў падпісаны Указ прэзідэнта № 150, які вызваліў рэгуляванне ставак арэнднай платы на рынках і ў гандлёвых цэнтрах ад дзяржаўнага кантролю. Як толькі ўлада склала з сябе згаданыя паўнамоцтвы, уладальнікі прыватных гандлёвых цэнтраў і рынкаў паспяшаліся ўзмацніць патрабаванні да ІП і прыватных унітарных прадпрыемстваў, якія арандуюць плошчы.

Напрыклад, у гандлёвым цэнтры "Паркінг" кошт арэнды быў павышаны з 37 да 65 еўра за квадратны метр. Пасля доўгіх перамоў паміж прадпрымальнікамі і арэндадаўцам з удзелам Мінгарвыканкама атрымалася не дапусціць яшчэ большага павышэння кошту арэнды, аднак нават такія ўмовы сталі невыноснымі для многіх бізнесоўцаў. І яны паціху пакідаюць названы гандлёвы цэнтр, выбіраючы для свайго бізнесу іншыя месцы, дзе стаўкі арэнднай платы ніжэйшыя.

## БЫЦЦАМ БЫ АДНОЛЬКАВЫЯ ЎМОВЫ

У рэгіёнах сітуацыя падобная.

Кіраўнік Цэнтра падтрымкі прадпрымальніцтва са Светлагорска **Жанна Рогава**:

"У Рэчыцы ёсць рынак. Адна яго частка адносіцца да піўзавода, другая знаходзіцца на балансе прыватнага суб'екта гаспадарання. І атрымліваецца, што людзі, якія працуюць на рынку, знаходзяцца ў абсалютна аднолькавых умовах, а арэндная плата абсалютна розная. У дзяржаўных структурах для адліку арэнднай платы прымяняецца базавая велічыня, якая складае 54 тысячы рублёў плюс дадатковы каэфіцыент. Нават калі рынак стратны, яны павінны ўзгадняць пытанні арэнды з выканкамам. І кошты там, як правіла, нізкія. У прыватнікаў усё інакш".

Спадарыня Рогава прыводзіць яшчэ адзін прыклад. Дзяржаўныя гандлёвыя памяшканні ўмоўнай плошчай 12 квадратных метраў здаюцца ў Светлагорску за 550 тысяч рублёў. А ў прыватным гандлёвым цэнтры "Пасаж" за гэтую ж плошчу неабходна заплаціць каля 3 мільёнаў рублёў.

Мясцовыя ўлады зараз дапамагчы нічым не могуць. Раней, яшчэ да прыняцця ўказа, яны маглі нейкім чынам паўплываць на арэндадаўцаў. Жанна Рогава кажа, што ў Светлагорск нават прыязджалі прадстаўнікі абласнога дэпартамента па развіцці прадпрымальніцтва з Гомеля і выступалі на баку ІП. Зараз дзяржава адышла ад спраў.

Умовы працы ў рэгіёнах праз павышэнне арэнднай платы, а таксама высокую падатковую нагрузку на прадпрымальнікаў сталі вельмі цяжкімі.

"Простыя прадпрымальнікі пакрыўджаны, бо атрымліваецца, што менавіта яны цярпяць найбольшыя страты. У іх сёння проста непад'ёмныя падаткі. У "Пасажы" трэба 3 мільёны заплаціць за арэнду, 370 тысяч складаюць адлічэнні ў Фонд сацыяльнай абароны насельніцтва, яшчэ 1,36 мільёна падаткаў, разам з падаткам на дабавачную вартасць. На што жыць?" — апелюе Жанна Рогава.



*"Сацыяльна-арыентаваная" дзяржава таксама падтрымлівае моцных*

## ЗДАВАЛАСЯ Б, ЖЫВІ І РАДУЙСЯ...

Буйныя бізнесмены часцяком мэтанакіравана зводзяць рахункі з індывідуальнымі прадпрымальнікамі і практычна даводзяць іх да банкруцтва. Вось, да прыкладу, гісторыя, якую распавёў "Тут і цяпер" індывідуальны прадпрымальнік з Мінска Юрый.

На працягу трох гадоў яго кававыя апараты стаялі ў адной з найбольш буйных гандлёвых устаноў Мінска, якая ўваходзіць у вялікую гандлёвую сетку. 1 чэрвеня з Юрыем прадоўжылі дамову на арэнду месцаў пад апараты яшчэ на 2 гады. Пры гэтым яго папрасілі набыць новыя машыны, якія б выглядалі больш прэзентабельна. Акрамя таго, Юрыю абяцалі, што ў найбліжэйшы час яму здадуць у арэнду дадатковыя месцы пад апараты. З гэтай нагоды ён патраціў 25 тысяч долараў і набыў 8 новых кававых апаратаў прэстыжнай маркі.

Усе апараты, што працавалі ў гандлёвым цэнтры, былі аснашчаны сродкамі кантролю Міністэрства па падатках і зборах, на што прадпрымальнік патраціў яшчэ 4,5 мільёна рублёў. Здавалася б, жыві і радуйся. Аднак шчасце доўжылася нядоўга. Ужо 1 ліпеня Юрый атрымаў паведамленне, што кантракт скасоўваецца і ён мусіць вывезці свае апараты з тэрыторыі гандлёвага аб'екта. Прадпрымальнік не згадзіўся і прапанаваў арэндадаўцу плаціць арэнду ўдвая большую, маўляў, можа, гэта пытанне грошай. Аднак дамовіцца не атрымалася.

"Мы і так дробныя сошкі ў гэтай краіне, — кажа Юрый. — А тут яшчэ і такая сітуацыя. Крыўдна".

"У нашай дзяржаве бізнес падзелены на дзве катэгорыі. У буйнога — вялікія магчымасці для лабіравання сваіх інтарэсаў, у індывідуальных прадпрымальнікаў — амаль ніякіх", — кажа старшыня Кардынацыйнага савета індывідуальных прадпрымальнікаў Анатоль Змітровіч.

**МІХАЛ ВЯЗЫНСКІ**

# ЦІ МАГЧЫМА ШМАТДЗЕТНАЙ СЯМ'І ХАРЧАВАЦЦА ЗА 2 МІЛЬЁНЫ Ў МЕСЯЦ?

Калі год назад пачалі павялічвацца кошты на прадукты харчавання, то амаль усе мае знаёмыя жартавалі, што іх заробак амаль увесь ідзе на "наведванне прыбіральні". У маёй сям'і трое дзяцей: дочкі — 15 і 9 гадоў, сын, якому неўзабаве споўніцца 5 год, сам я і жонка. Каб у крызіс не пакласці зубы на паліцу, мы былі вымушаны падкарэктаваць сямейнае меню і больш уважліва прыглядзецца да розных зніжак па акцыях у крамах. Аднак заўважу, што эканоміць тут трэба з розумам, каб дзеці былі здаровыя і сытыя.



*Сям'і, асабліва, шматдзетнай, без татальнай эканоміі не пражыць*

## НА СНЕДАННЕ ТОЛЬКІ КАША І ЧАЙ

З раніцы мае дзеткі есці практычна не жадаюць. Звычайна на працягу тыдня мы гатуем 4 разы грэчку (800 г — 6500 рублёў), 2 разы — рыс (350 г — 3000 рублёў) і адзін раз аўсяныя шматкі (100 г — 600 рублёў). Рыс і аўсянку трэба гатаваць з малаком. Па бюджэтным кошце лепш браць малако "Бабушкіна крынка" сярэдняй тлустасці 3%. Толькі для кашы неабходна набываць два пакеты малака па 0,9 л (4250 х 2 = 8500 рублёў) і 200 г сметанковага масла (7450 рублёў).

**ДА ВЕДАМА**

**У нашай сям'і двое дарослых працуюць. Жонка з якасці маркетолага атрымлівае прыкладна 2,5 мільёны рублёў. Мая работа звязана з аналітыкай у эканоміцы, што дае ў агульны бюджэт яшчэ каля 4 мільёнаў рублёў. Тыя 500 тысяч, што нам удаецца эканоміць на ежы, мы з задавальненнем трацім на абноўкі для дзяўчат ці адкладваем на адпачынак. Колькі грошай наша сям'я можа сабе дазволіць выдаткаваць на адзенне і іншыя тавары ці паслугі, мы паспрабуем расказаць у наступных нумарах.**

Самым дарагім прадуктам для гатавання сняданкаў мая жонка сёння лічыць менавіта малако. Калі кошты на крупы (галоўным чынам імпартныя) айчынны гандаль нават зніжае, то з "родным" малаком усё наадварот. Цэны на яго павялічваюцца штомесяц, у гандлёвых акцыях яно не прысутнічае і ў запас "па старых коштах" не купіш.

Атрымліваем, што на кашы з малаком і маслам шматдзетнай сям'і неабходна аддаваць каля 30 тысяч у тыдзень, а ў месяц — 120 тысяч рублёў.

## НА АБЕД ТОЛЬКІ СУП

Гатаваць "рэстаранны" абед у шматдзетнай сям'і у бацькоў звычайна не атрымліваецца. Абед, як правіла, складаецца з адной талеркі супу, якая з'яўляецца аднaчасова першай і другой стравай. Суп павінен быць такім, каб лыжка ў ім стаяла, бо там і мяса (або пельмені), і бульба, і капуста (бурак), і морква і іншае. Трохлітровай каструлі сям'і хапае на 2-3 дні. Дзве-тры каструлькі такога "грунтоўнага" супу закрываюць тыднёвы рацыён абедаў. Гатуюцца нашы супы звычайна з кураціны, кошты на якую яшчэ не кусаюцца.

Па нашых падліках, за тыдзень на абеды трэба аддаць каля 120 тысяч, а ў месяц — прыкладна 500 тысяч рублёў.

## НА ВЯЧЭРУ РЫБА ЦІ МЯСА АБАВЯЗКОВА

Увечары тата і мама амаль заўсёды дома, таму ёсць магчымасць прыгатаваць нешта больш складанае. Больш за тое, калі дзеці рознага ўзросту, то лёгкай вячэры ніяк не атрымаецца: хто яго ведае, як сур'ёзна яны харчаваліся на працягу дня? Тут трэба ўлічваць і апетыты дарослых.

Мае дзеці, у тым ліку і самы малы, ядуць мяса толькі ў выглядзе катлет ці адбіўных. Адбіўныя лепш за ўсё рабіць з курынай грудкі, бо ў цесце з прыправамі курынае філе смачнае, да таго ж яно лёгка жуецца. Мой малы і да гэтага часу ўяўляе, што гэта не адбіўная, а звычайны такі сытны блінчык. У фаршы для катлет свініны і ялавічыны не больш за 30–40%, яшчэ недзе 30% ад агульнага аб'ёму прыпадае на тое ж таннае курынае мяса. У катлеты трапляе надзёртая бульба, цыбуля, морква, хлеб, а часам нават крыху кашы і сыр. Два дні ў сям'і на вячэру — адбіўныя, два дні — катлеты і прыкладна 2-3 разы ў тыдзень у рацыёне рыба.

— Мне здаецца тата, што ты не зусім правільную прафесію выбраў, — адзначае старэйшая дачка, калі частуецца маімі пельменямі і адбіўнымі са складаным гарнірам. — А вось такіх смачных кулебяк я ўвогуле нідзе не ела.

Мабыць таму ў нашай сям'і практычна ніколі няма вэнджаных дарагіх каўбас. Мяса, прыгатаванае татам, дзецям больш даспадобы. А яшчэ наша мама добра растлумачыла малым, што ў сучаснай магазіннай каўбасе вельмі шмат хіміі.

Катлеты і паўфабрыкаты для адбіўных, рыбных фрыкадэлек і іншых мясных страў робяцца ў вялікай колькасці ў выхадныя. Потым такія нарыхтоўкі раскладваюцца ў пакецікі і замарожваюцца. Час ад часу мы з жонкай лепім "тазік" пельменяў, галубцоў, невялікіх кулебяк ці расцягаяў. Калі гатаваць гэтыя стравы самастойна, то яны будуць недзе на 30–40% таннейшымі, чым у кулінарыі, а пра смак тут і казаць няма чаго. Напрыклад, мая старэйшая дачка ўпэўнена, што ў магазінныя пельмені мяса ўвогуле пакласці забыліся. Недзе два-тры разы на месяц жонка гатуе на вячэру сырнікі ці салодкія складаныя блінчыкі. Абавязкова з мясной ці рыбнай стравай прапаноўваецца салата з агародніны. На гарнір — бульба ці макароны.

Па нашых прыкладных падліках, вячэра для сям'і з 5 чалавек абыходзіцца каля 30 тысяч рублёў, а ў месяц — 900 тысяч рублёў.

## НА ПРАЦЯГУ ДНЯ САДАВІНА, СОКІ І ПРЫСМАКІ

Зразумела, што ў вялікай сям'і немагчыма арганізаваць выключна трохразовае харчаванне. Вышэй мы агучылі толькі абавязковае меню. За дзень трое дзяцей "знішчаюць" кіло бананаў, а ў сезон — яшчэ і столькі ж яблыкаў. Час ад часу купляюцца клубніцы, нектарыны і іншыя "вітаміны". З рознай неабходнай садавінай і ягадамі нам дапамагаюць бацькі, якія вырошчваюць усё гэта на дачы. Зімой мы варым кампоты з сухафруктаў, а летам ужываем квас ці бярозавік, якія прапаноўваюцца па акцыях не вельмі дорага. Зараз у сетцы крам "Рублёўскі" акцыя на паўтарачку кваса каштуе ўсяго 4900 рублёў, а ў магазіне "Віталюр" 2 літры бярозавіку — 6300 рублёў. У іншых магазінах такі квас каштуе 8500 рублёў, а бярозавік — ажно 12 000. Нават пры жорсткіх абмежаваннях (як вядома, салодкае — не вельмі карысная рэч) трое дзяцей з'ядаюць каля 2 кілаграмаў шакаладных цукерак у месяц. Не вельмі дарагімі і якаснымі з'яўляюцца цукеркі "Белісіма" (Украіна), якія па акцыях у асобных крамах каштуюць каля 38 тысяч за кілаграм.

Нават пры самых сціплых падліках, на такое дадатковае харчаванне неабходна аддаць каля 600 тысяч рублёў у месяц.

Памідоры ,якія вырошчваюцца на ўласным балконе, таксама дапамагаюць у хатняй гаспадарцы

## ШУКАЦЬ ЗНІЖКІ І АКЦЫІ Ў РОЗНЫХ КРАМАХ

Калі падсумаваць усе пазначаныя пазіцыі па харчаванні, то атрымліваецца, што шматдзетная сям'я за месяц з'ядае прадуктаў прыкладна на 2 мільёны 120 тысяч рублёў. Спачатку я вельмі здзівіўся гэтай вялікай суме, аднак... Мае даўнія знаёмыя з дваімі дзецьмі падлічылі, што іх чатыры роты "з'ядаюць" нават больш за 3 мільёны, а мы харчуемся амаль аднолькава. Тут існуе толькі адно "але": знаёмыя купляюць усю ежу ў адной краме, а мы — толькі там, дзе прапаноўваюцца максімальныя зніжкі на стандартныя пазіцыі.

Напрыклад, садавіну, цукеркі, сокі, сухафрукты, мяса, асобныя крупы і макарону шматдзетнай сям'і лепш купляць у гіпердыскаўнтары "Еўраапт". Там штотыдзень мы набіраем прадуктаў на 200—300 тысяч. Менавіта для шматдзетных магазін праз сацыяльныя службы выдае дысконтную карту на набыццё тавару са зніжкай 5%. Дысконт не распаўсюджваецца толькі на тавар па акцыях. Па іх для ўсіх катэгорый насельніцтва кошт можа зніжацца на 15–20% ці нават больш.

Напрыклад, цвёрдыя сыры тут можна адшукаць па 39–44 тысячы рублёў за кг — у астатніх крамах сыр каштуе 53–57 тысяч рублёў. На акцыях вы купіце грэчку (800 г) за 6800 рублёў, смачныя ледзяшы фірмы "Рашэн" (Украіна) — за 22–34 тысячы рублёў; кіло бананаў — за 7900 рублёў (11 тысяч па горадзе).

Марскую рыбу лепш купляць у краме "Віталюр": там мінтай без галавы — 17 900 (звычайны кошт — 23 900), скумбрыя — 26 000 (у іншых крамах — ад 30 000), аргенціна — 16 900 (23 950), мойва — 9900 рублёў (13 800).

Агародніну ў сезон лепш набываць на рынку ў Ждановічах. Маладую бульбу там можна адшукаць па 2 тысячы за кіло, памідоры — за 8–10 тысяч, а агуркі ўсяго за 3–3,5 тысячы рублёў.

Шмат розных зніжак прапаноўвае і магазін "Рублёўскі", аднак ва ўсіх крамах гэтай гандлёвай сеткі побач з таннымі таварамі заўсёды хапае і даволі дарагіх пазіцый. Таму, калі ў сям'і ёсць час і здольнасць планаваць пакупкі, то трэба мець у наяўнасці 3-4 розныя аб'екты гандлю. Наш вопыт паказаў, што на планаванні, зніжках і акцыях можна эканоміць на ежы ў месяц каля 400—600 тысяч рублёў.

**СЯРГЕЙ ПАЛУЯН**


*Суп як паратунак*

# ЦІ БАЙКАТУЕ ХОЦІМСКАЯ ЎЛАДА СЁЛЕТНІЯ ВЫБАРЫ?

**Мясцовыя ідэолагі падчас важнай выбарчай кампаніі на сустрэчах "з народам" пераможна рапартуюць пра поспехі ў падтрымцы… прадпрымальніцва і маўчаць як вады ў рот набраўшы пра самі выбары.**

Пра тое, як прайшоў "Адзіны дзень інфармавання насельніцтва" ў Хоцімскім раёне Магілёўскай вобласці, карэспандэнту "Тут і цяпер" распавёў мясцовы грамадскі актывіст Пётр Басейка:

— Звычайна я на гэтыя дні інфармавання насельніцтва стараюся не трапляць, як, дарэчы, і шмат хто з калег, каго, як гаворыцца, адміністрацыя не паспее паймаць. Але вырашыў пайсці нядаўна, бо парламенцкія выбары ўвосень, а я вызваўся ў склад ініцыятыўнай групы да Валерыя Каранкевіча, сябра і паплечніка па палітычнай і грамадскай рабоце.

Вось і падумалася мне, што варта паслухаць і даведацца аб тым, што думае наша ўлада пра выбары, як падае гэтую тэму народу (каб лепш арыентавацца, калі пачнём збіраць подпісы за свайго кандыдата, а пасля рэгістрацыі — агітаваць за яго). Уявіце маё здзіўленне, калі перад сабранымі ў актавай зале раённага камунгаса 28 чалавекамі выступіла… маладая супрацоўніца раённага радыё Любоў Холалава, якая, не адрываючы вачэй ад паперкі, за 10 хвілін асвяціла тэму "дзяржаўнай палітыкі ў сферы развіцця прадпрымальніцтва і актывізацыі дзелавой актыўнасці грамадзян". Ні слова пра выбары! Калі выступоўцы пачалі з месцаў пытацца пра тарыфы, заробкі і пра тыя ж выбары (пытанняў пра "дзелавую актыўнасць" я не пачуў), разгубленая лектарка прызналася, што да такіх пытанняў яна не гатова і толькі бярэцца іх запісаць і перадаць у райвыканкам.

Пётр Басейка падумаў, што, магчыма, толькі ў яго арганізацыі дзень інфармавання насельніцтва праводзіўся дзеля птушачкі, таму вырашыў наведаць яшчэ і сустрэчу ідэолагаў з народам у раённай бібліятэцы, якая праводзілася крыху пазней за нашу і шырока рэкламавалася напярэдадні ў раённай газеце. На ёй прысутнічалі 15 чалавек. Перад Басейкам і яго калегамі выступіў спецыяліст нейкага аддзела райвыканкама. Ён таксама па паперцы зачытаў нейкую інфармацыю пра росквіт у краіне прадпрымальніцтва і дзелавой актыўнасці і паабяцаў перадаць пытанні "вышэй". Пра выбары і тут не было сказана ніводнага слова…

Напамін пра тое, што 23 верасня ў Беларусі адбудуцца выбары ў Палату прадстаўнікоў, "вісіць" толькі на ўваходзе ў райвыканкам.

**БАГДАН ІВАНОЎ**

# ЧЫМ ЗАКАНЧВАЮЦЦА ЗОРНЫЯ

**Зараз увага многіх прыкавана да разводу Анжалікі Агурбаш. Адны шчыра спачуваюць спявачцы, якая лёгка можа застацца і без маёмасці, і без сына.**

У Расіі шмат гісторый, калі па рашэнні суда дзяцей пакідаюць з бацькам, у якога шмат грошай. Іншыя ліхасловяць — маўляў, так ёй і трэба. А трэція не вераць — на што не пойдзеш дзеля ўласнага піяру?!

**"Тут і цяпер"** вырашыла прыгадаць некаторыя гучныя зорныя разводы.

## АНЖАЛІКА АГУРБАШ ЗНЯЛА ЗАРУЧАЛЬНЫ ПЯРСЦЁНАК

Днямі расійская «Экспрэсгазета» паспрабавала вывудзіць падрабязнасці гучнага разводу спявачкі Анжалікі Агурбаш у легендарнай хатняй прыслужніцы Алы Пугачовай і Філіпа Кіркорава Людмілы Іванаўны Дароднавай, з якой спявачка водзіць даўняе сяброўства.

«Нават і не чула пра гэта, — адказала яна. — Анжаліка мне нічога не расказвала. Шчыра кажучы, пра тое, што ў іх сям'і нейкія нелады, я чую ў першы раз. Заўсёды яны добра жылі. Мікалай добры мужчына, і на баку ў яго, наколькі я ведаю, быццам бы нікога няма. Ды і ў Анжалікі. Яны вельмі любяць адно аднаго, на мой погляд. Пры мне ніколі не лаяліся... Ну, мо толькі вось нядаўна, на юбілеі Філіпа. Ён у канцы красавіка святкаваў 45 гадоў у рэстаране «Сафиса». Анжаліка туды прыехала, а следам — Мікалай. Яму не спадабалася, што жонка за сталом сядзела і выпівала, перабрала з гэтай справай, вось ён і раззлаваўся. Адносіны яны высвятлялі... Праўда, больш я нічога не бачыла і не ведаю. Ведаю вось толькі, што ён ёй цяпер і падарункі дасылае, і тэлефануе. Калі б чалавек хацеў разводзіцца, то ён такога не рабіў бы, праўда? Гэта іх сямейныя справы, я туды не лезу. Самі разбяруцца!»

Сама Анжаліка ў апошнім інтэрв'ю часопісу «ОК!», калі навіна пра развод ужо разляцелася па сродках масавай інфармацыі, сказала, што пачынае новае жыццё.

"І я спадзяюся, яно будзе надта адрознівацца ад майго жыцця ў апошніх 11 гадоў, — кажа спявачка. — Унутры, вядома, засталіся і горыч, і расчараванне, і шкадаванне. Ёсць усе! Але я спраўлюся з гэтымі пачуццямі, бо я моцная жанчына, я ўсё вытрымаю.

Я зняла заручальны пярсцёнак. Я больш не жыву з гэтым чалавекам. Я яму ўдзячная за тыя гады, якія мы пражылі разам. Удзячная за тое, што ён мяне зрабіў такой, якая я цяпер, — моцнай, магутнай. Але той перыяд жыцця скончыўся. І цяпер я хачу пачаць новы. У мяне так многа творчых праектаў, якія я павінна рэалізаваць. У мяне ёсць дзеці, якіх я павінна выгадаваць.

Шлюб з майго боку быў шчырым. Я зрабіла ўсё, каб яго развіць і захаваць. Я беларуска, я вельмі цярплівая. Але на ўсё, прызнаюся, сіл не хапіла. Надышоў вельмі востры момант у жыцці, калі я цярпелацярпела, але раптам зразумела, што ўсё — яшчэ крыху, і я памру. І ў адно імгненне прыйшло рашэнне перавярнуць усё з ног дагары…».

Пазоў аб разводзе Анжалікі і Мікалая Агурбаш разгледзяць 27 жніўня. Тады і стане ясна: па-сапраўднаму распалася сям'я ці гэта, як пішуць асобныя расійскія выданні, усяго толькі піяр...

## АЛЕСЯ ЯРМОЛЕНКА ЗНОЎ ШЧАСЛІВАЯ

Праўда, зараз салістка ансамбля "Сябры" стараецца не афішаваць сваё асабістае жыццё. Але не ўтойвае, што побач з ёй ёсць надзейны мужчына.

Нагадаем, што з першым мужам — Сяргеем Ліпенем — спявачка разышлася ў 2009 годзе. У іх ёсць ужо дарослы сын, які, дарэчы, даволі паспяхова выступае на сцэне.

«У нейкі момант я зразумела, што надышоў час ставіць кропку, — распавядала Алеся пару гадоў назад у інтэрв'ю "Камсамолцы". — Не магу сказаць, што была такая відавочная, зразумелая для ўсіх прычына. Мы не лаяліся. Не было здрады ні з аднаго, ні з другога боку. Не было ніякага штуршка звонку, але і жыцця шчаслівага таксама ўжо не было. Мы дыхалі адным паветрам, але глядзелі ў розныя бакі. Некаторыя сем'і гадамі жывуць разам незразумела навошта. Мне так жыць не хацелася. Усё павінна развівацца. А калі дасягаецца нейкая пэўная мяжа, і ты разумееш, што развівацца разам ужо няма куды, хочацца захаваць тое, што нажыта. Тады лепш разысціся і застацца проста сябрамі. Вельмі цяжка адважыцца на нешта. Аднак калі ты прыняў рашэнне, становіцца лягчэй. У мяне ўсё адбылося ў адзін дзень. Я прыйшла і сказала: "Сяргей, давай падумаем, як зрабіць так, каб мы засталіся проста сябрамі". Мужчыне гэта пачуць, напэўна, крыўдна. Ва ўсякім выпадку, я бачыла, што ён пакрыўдзіўся. Але які сэнс быў далей псаваць адно аднаму жыццё? Нашы думкі па нейкіх пытаннях сталі разыходзіцца. У нас разыходзіліся і меркаванні наконт выхавання дзіцяці. Напэўна, з-за сына я і адважылася на гэты крок. Вядома, у нас былі і іншыя ўзаемныя крыўды, але гэта асабліва асабістыя пытанні, мне б не хацелася іх абмяркоўваць.

Так, праблема, напэўна, у тым, што мы, у прынцыпе, вельмі розныя. Мы атрымалі рознае выхаванне. Мы з рознага сацыяльнага асяроддзя. З дзяцінства ў нас быў розны лад жыцця. Сяргей мог з пазіцыі сілы вырашаць нейкія пытанні, я была супраць гэтага. Я вельмі пазітыўны чалавек, аптыміст па жыцці. Сяргей песіміст. Ён досыць складаны чалавек. Ёсць такая катэгорыя людзей — самотны воўк. Я, калі з ім пазнаёмілася, адразу гэта зразумела. Мне было 20, яму 29. Мы адно аднаго многаму навучылі, прынамсі, ён мяне. Ён дапамог мне пасталець, за што яму вялікі дзякуй».

## АЛЯКСАНДР САЛАДУХА ШЧАСЛІВЫ Ў ТРЭЦІМ ШЛЮБЕ

Аднак сёння аб папярэдніх жонках і скандалах, звязаных з разводамі, артыст не любіць узгадваць. Цяпер ён шчаслівы ў трэцім шлюбе. Нагадаем, што ў 2009 годзе Саладуха ажаніўся з Наталляй Курбыка, і ў 2010 годзе ў іх нарадзілася дачка Варвара.

«Я развод Анжалікі Агурбаш не абмяркоўваю, і ў нашай сям'і гэтую навіну нібыта і не заўважылі, — кажа Саладуха. — Думаю, што гучныя разводы — гэта няправільна. А ў выпадку Анжалікі Агурбаш, мне здаецца, разводу не будзе: не выключана, што гэта проста піяр-ход такі...

Сумна, вядома, калі людзі разводзяцца, калі выплывае хлусня і ўсё такое. Гэта няправільна.



*Развод – справа заўсёды амаль трагічная*

# РАЗВОДЫ

Трэба і сябе самога, і блізкіх, і іншых радаваць сілай, дзецьмі, прыгажосцю, усмешкай, багаццем, у рэшце рэшт. Жыць трэба на пазітыве! Гэта тычыцца, дарэчы, не толькі асабістага жыцця, але і ўсяго астатняга.

Вось вы мяне пра асабістае жыццё пытаецеся, а ў мяне галава працай занята — рыхтуюся да канцэртаў. 19 жніўня адбудзецца грандыёзны канцэрт у Гомелі на стадыёне "Цэнтральны", а 30 жніўня — у Віцебску, у Летнім амфітэатры. Ну а затым ляцім разам з сынамі, дачкой і жонкай на адпачынак у Турцыю. Так што планаў хоць адбаўляй!»



*Для поп-зорак разыходзіцца – гэта правіла*

## ЯЎГЕН КРЫЖАНОЎСКІ РАЗВОДЗІЎСЯ ЧАТЫРЫ РАЗЫ

І кожны раз, як сапраўдны мужчына, сыходзіў ад сваіх жанчын у адных трусах. І тое не заўсёды...

«Слова «развод» не выклікае ў мяне негатыўных эмоцый, — кажа Яўген Анатольевіч. — Я фаталіст і лічу, што напісана на лёсе, то і павінна быць. І ў разводах таксама нічога страшнага няма, трэба толькі да іх прызвычаіцца. Я вось паабвыкся...».

Да падзелу маёмасці ва ўсіх сем'ях Крыжаноўскага справа ніколі не даходзіла.

«Дзяліць заўсёды было няма чаго, — кажа артыст. — А калі нават і было, то я заўсёды ўсё пакідаў жонкам. У мяне быў перыяд, калі прыйшлося пару месяцаў жыць у машыне. Але лічу, што, калі мужчына сыходзіць з сям'і, ён павінен жанчыне пакінуць усё і сысці на ўсе чатыры бакі голым і босым. На мой погляд, так правільна. Таму што яна аддала табе частку свайго жыцця, і ты знойдзеш яшчэ кагосьці, а яна, магчыма, і не".

Асабістае жыццё ўладкавалася далёка не ва ўсіх былых жонак вядомага артыста.

«Дзве выйшлі замуж, і дзеці ў іх ёсць у новых шлюбах, але я думаю, што гэта ўсё без кахання, — крыху саманадзейна кажа артыст. — А мо я і не маю рацыі... Але ў любым выпадку я з усімі сваімі былымі жонкамі падтрымліваю вельмі добрыя адносіны, асабліва з Тамарай, маёй перадапошняй жонкай, ад якой у мяне трое дзяцей. Мы жывём побач, у нас агульная дача. Былыя жонкі прынялі ў сваё кола маю цяперашнюю жонку, нават дапамагаюць ёй кіраваць мной, бо выдатна ведаюць мае слабасці... І, самае галоўнае, Тамара стала хроснай мамай маёй апошняй дачкі Ксюшкі».

Крыжаноўскі перакананы, што такія выдатныя адносіны з былымі жонкамі ў яго склаліся таму, што ён заўсёды паводзіў сябе «як прыстойны мужык».

«Я і кватэру пакінуў, і дапамагаў заўсёды, і зарплату аддаваў, — дзеліцца амаль інтымнымі падрабязнасцямі Яўген Анатольевіч. — Мы ніколі не заводзілі размоў аб аліментах, таму што я заўсёды ўсё нёс у сям'ю. І цяпер, калі дочкі ўжо сталі дарослымі, я ўсё роўна падтрымліваю іх: і вучобу аплачваю, і рамонты, і паездкі. Ведаеце, справа нават не ў грошах. Я проста іх не пакінуў — яны ж усе мае! І нават цешча, якая, здавалася б, павінна была мяне праклясці за тое, што я кінуў яе дачку, сказала: «Жэнька, я цябе ўсё роўна люблю!".

Таму ўсім мужыкам хачу сказаць: не прыніжайцеся за капейкі, не прыніжайце ў першую чаргу сябе і жонку падзеламі маёмасці, калі сыходзіце з сям'і — пачніце ўсё з белага аркуша. А то пачынаюць судзіцца, прозвішчы адымаць, дзяцей дзяліць — тады гэта ўжо трагедыя для ўсіх.

Мы вось літаральна на днях збіраліся ўсе разам на лецішчы, елі шашлыкі, збіралі ягады, смяяліся, я глядзеў на ўсё гэта і думаў: "Божа, гэта вось тая самая гармонія, пра якую можна толькі марыць!».

**МАРЫНА МІТ**

# ПЕРШЫЯ З ПЕРШЫХ БЕЛАРУСКАГА АЛІМПІЗМУ

**Заўтра, 27 ліпеня, у Лондане запалае агонь XXX летніх Алімпійскіх гульняў. На найбуйнейшым сусветным форуме чатырохгоддзя Беларусь будуць прадстаўляць 172 атлеты.**

Вынікі іх выступлення будзем падводзіць праз тры тыдні. Сёння ж **"Тут і цяпер"** аддае належнае героям мінулага, згадваючы першых з першых у гісторыі беларускага алімпізму.

## НАШ ЧАЛАВЕК ЛЯ ВЫТОКАЎ АЛІМПІЯД

Мала хто ведае, што ля вытокаў адроджаных французскім баронам П'ерам дэ Кубертэнам Алімпійскіх гульняў — аднаго з самых амбітных і паспяховых праектаў у сучаснай гісторыі, стаяў наш зямляк.

**Зыгмунт Мінейка** (1840–1925) нарадзіўся ў шляхетнай літвінскай сям'і ў Балванішках (цяпер Зялёны Бор) на Ашмяншчыне. Ягоныя продкі пакінулі след у гісторыі Вялікага Княства Літоўскага, а бацькі выхавалі патрыётам старой Літвы і Рэчы Паспалітай. Ужо ў юнацтве ён распачаў антыцарскую агітацыю сярод сялян, за што трапіў пад праслед паліцыі. Павучыўшыся ў італьянскай ваеннай школе легендарнага Гарыбальдзі, падчас паўстання Каліноўскага Мінейка ачоліў партызанскі атрад. Аднак касінеры пацярпелі паразу, а камандзіра прысудзілі да павешання. Неймаверная гісторыя ўратавання Зыгмунта з-пад шыбеніцы, а потым і з сібірскай катаргі заслугоўвае цэлай кнігі…

Новае жыццё нашага земляка пачалося ў Парыжы, дзе ён скончыў прэстыжную Акадэмію Генштаба. Высокапрафесійны інжынер, літвін будаваў чыгункі і масты ў Балгарыі, Турцыі і Грэцыі. У апошняй і атайбаваўся, ажаніўшыся з грачанкай Празэрпінай Мінарыс. У 1878-м гучную славу беларускаму эмігранту прынесла сенсацыйнае археалагічнае адкрыццё. У адной з экспедыцый Мінейка адшукаў згаданы яшчэ Сакратам храм Зеўса ў Дадоне. Гэта першы ўнёсак нашага суродзіча ў адраджэнне старажытнагрэчаскіх Гульняў.

У 1891-м Мінейка з сям'ёй абсталяваўся ў Афінах, дзе стаў галоўным інжынерам Міністэрства публічных работ. Наш зямляк адыгрываў важную ролю ў працэсе падрыхтоўкі Грэцыі да першых Алімпійскіх гульняў 1896 года. Менавіта пад ягоным кіраўніцтвам вялося будаўніцтва і аднаўленне асноўных аб'ектаў, у тым ліку галоўнай арэны Гульняў – старажытнага Мармуровага стадыёна. У часе спаборніцтваў наш зямляк пісаў рэпартажы з алімпійскіх арэн для польскіх газет "Czas" і "Dziennik Polski".

## ПЕРШЫ АЛІМПІЕЦ

Доўгія дзесяцігоддзі пачатак беларускага алімпізму выводзілі з 1952 года — дэбютнага для зборнай СССР на Гульнях. Насамрэч, наш зямляк быў сярод непасрэдных удзельнікаў "праекта Кубертэна" яшчэ за 40 год да таго.

**Караль Румель** (1888–1967) нарадзіўся ў Горадні. Па мячы ён быў нашчадкам вестфальскіх дваран, сынам генерала расійскага войска Альфонса Румеля. Па кудзелі — наступнікам шляхты Рэчы Паспалітай. З благаславення бацькі хлопец яшчэ ў дзяцінстве прывязаўся да коней і верхавой язды. Скончыўшы Адэскі кадэцкі корпус, Паўлаўскую ваенную вучэльню і Акадэмію мастацтваў у Пецярбургу, Румель паступіў на службу ў 14-ты драгунскі Маларасійскі полк. Там ён адказваў за абслугоўванне коней у свіце расійскага імператара.

У 1912-м гарадзенец прайшоў адбор у алімпійскую каманду Расіі для ўдзелу ў Алімпійскіх гульнях у Стакгольме. Падчас спаборніцтваў па канкуры (пераадоленне перашкод) адбыўся інцыдэнт, які назаўжды патрапіў у алімпійскую гісторыю.

*Заканчэнне на стар. 8*

# ПЕРШЫЯ З ПЕРШЫХ БЕЛАРУСКАГА АЛІМПІЗМУ

*Заканчэнне.*
*Пачатак на стар. 7*

Паводле легенды, Румель ішоў у лідарах, аднак на апошнім бар'еры ягоны конь Зяблік паваліўся, прыціснуўшы сабой вершніка. Нягледзячы на невыносны боль, Караль ускараскаўся на каня і скончыў дыстанцыю на 15-м месцы. Пасля фінішу ён страціў прытомнасць і ўжо ў шпіталі даведаўся, што ў яго зламаны пяць рэбраў. Уражаны мужным учынкам алімпійца, шведскі кароль Густаў V загадаў зрабіць для Румеля адмысловы залаты медаль.

Пасля гэтага гарадзенец яшчэ двойчы браў удзел у Алімпійскіх гульнях — ужо ў складзе польскай каманды. Прычым у 1928 годзе заваяваў срэбра каманднага турніру па трохбор'і. Гэта дасягненне можна лічыць першым медалём у гісторыі беларускага алімпізму.

## ПЕРШЫ СКУЛЬПТАР-АЛІМПІЁНІК

Малавядомы факт, але з 1912 па 1948 год у праграмы Алімпійскіх гульняў уваходзілі конкурсы мастацтваў. Яны ладзіліся ў пяці катэгорыях: архітэктура, літаратура, музыка, жывапіс і скульптура. Работы павінны былі быць прысвечаны спорту, а іх аўтары ўзнагароджваліся такімі ж медалямі, як і спартоўцы.

Гродзенскі архітэктар Юзэф Клукоўскі, які скончыў парыжскую Акадэмію мастацтваў і здзейсніў прарыў у польскай архітэктуры мадэрну, заваяваў два медалі ў алімпійскіх конкурсах мастацтваў: золата (1932) і срэбра (1936). На жаль, амаль усе ягоныя работы былі знішчаны ў часе нямецкага бамбавання. Свой жыццёвы шлях скульптар скончыў у нацысцкім канцлагеры.



*Алімпіяда для нас пачалася выдатна*

## ПЕРШЫ МЕДАЛЬ БССР

На дэбютную для СССР Алімпіяду-1952 у Хельсінкі выправіліся сямёра прадстаўнікоў БССР. Найбольш паспяховым з іх стала выступленне спрынтара Анатоля Юліна. У фінале бегу на 400 метраў з бар'ерамі ён фінішаваў чацвёртым.

А вось другому ўдзельніку таго "першага экіпажа" — кідальніку молата Міхаілу Крываносаву — было наканавана стаць першым алімпійскім прызёрам Савецкай Беларусі. Праўда, адбылося гэта праз чатыры гады ў Мельбурне. 19-гадовы крычаўскі хлопец заваяваў срэбра і стаў першай ластаўкай легендарнага настаўніка Яўгена Шукевіча — заснавальніка беларускай школы кідання. Абсурдна, але рэспубліканская газета "Фізкультурнік Беларусі" прысвяціла гэтай эпахальнай падзеі ўсяго некалькі радкоў з рэпартажу ТАСС.

## НАША ПЕРШАЕ ЗОЛАТА

Яшчэ праз чатыры гады ў Рыме беларусы займелі і першае ў айчыннай гісторыі алімпійскае "золата". Трыумфатарамі тых Гульняў сталі канаісты Леанід Гейштар і Сяргей Макаранка, якія цягам некалькіх год не мелі сабе роўных у свеце на дыстанцыі 1000 метраў.

Самае цікавае, што тая вікторыя магла і не адбыцца. Пра гэта цяпер не любяць узгадваць, але перад самым адлётам у Рым беларускі тандэм ледзь не пакінулі дома. Прычына — "пятая графа" і "немілагучнае" прозвішча Леаніда Гейштара.

"Нас пратрымалі ў напружанні чатыры дні. Уздымаліся а 6-й раніцы і спяшаліся трэніравацца на Маскву-раку. Тады мы нічога не разумелі, а ўжо потым мне сказалі, што "кадэбэшнікаў" насцярожыла маё прозвішча і тое, што я не быў ні камуністам, ні камсамольцам", — прыгадваў Гейштар.

## ЗАЛАТЫ ДОЖДЖ НА БЕЛ-ЧЫРВОНА-БЕЛЫМ ФОНЕ

Гульні-1992 у Барселоне адбываліся ўжо пасля распаду савецкай імперыі. Латвія, Літва і Эстонія вярнуліся ў алімпійскую сям'ю пасля больш як паўвекавой адсутнасці. Спартоўцы астатніх рэспублік, што ўтварылі Саюз Незалежных Дзяржаў, выступалі Аб'яднанай камандай пад алімпійскім сцягам. Пры гэтым у гонар пераможцаў і прызёраў з СНД да неба ўздымалі іх нацыянальныя сцягі. Менавіта ў Барселоне мільярдная аўдыторыя тэлегледачоў упершыню пабачыла наш бел-чырвона-белы сцяг.

Галоўным героем Барселоны стаў беларускі гімнаст Віталь Шчэрба. 20-гадовы мінчанін заваяваў адразу шэсць залатых медалёў, чым назаўсёды ўпісаў сваё імя ў летапіс Алімпійскіх гульняў.

**КАСТУСЬ ЛАШКЕВІЧ**



**Заснавальнік** ТАА "Тут і цяпер" **Адрас** г. Мінск, вул. Касцюшкі, 18
**Галоўны рэдактар** А. Уласаў (email: info@svabodaby.net) **Падпісана ў друк** 11:45 27.07.12
Тыраж 299 экзэмпляраў